# Дудачка

**_Змітрок Бядуля_**

Баю, баю баечку,
Граю, граю граечку.

Я пайшоў далінаю,
Вузкаю сцяжынаю.

Там над самай рэчкаю
Ёсць кусты з парэчкамі,

Пад высокай кручаю—
Крапіва пякучая.

Ёсць лазіна стройная,
Гладкая і роўная.

Выразаў я дудачку,
Дудачку-пагудачку.

Засвістаў я птушкаю,
Птушкаю-пяюшкаю.

Заіграў я граечку,
Траля-траляляечку.

Рэхі пакаціліся,
Жаўранкі здзівіліся.

Камары зляцеліся—
Ім свістаць хацелася.

Пчолкі пазбіраліся—
Ім свістаць жадалася.

Гускі прывалюхалі,
Дудачку паслухалі.

— Дай нам, дай нам дудачку,
Дудачку-пагудачку!

— Дай нам, дай свісцёлачку
Пасвістаць пад ёлачкай!

Граю, граю граечку,
Траля-траляляечку.

*Рысунак Давідовіча.*

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Ліпень № 7 1939 г.



# Бярозавы конь

Апавяданне Я. МАЎРА



Горача, душна. У вёсцы пуста. Усе калгаснікі ў полі на рабоце. Там і Толіка мама, і татка, і брат Зміцер, і сястра Люба. А яго, Толю, пакінулі дома з бабуляй. Бо ён, кажуць, малы. А які ён малы, калі яму ўжо мінула шэсць гадоў. Вось Петрык, што жыве насупроць, дык той сапраўды малы: яму толькі чатыры гады, і ён нічога не разумее. А калі што і разумее, то зусім па-дзіцячаму. Проста смешна слухаць, як гэты Петрык пачне хваліцца, што ўсіх фашыстаў пазабівае, увесь свет забярэ, або каменьчыкам самалёт саб'е. Адразу відаць, што зусім яшчэ малое і дурное дзіця. А Толя так не скажа. Ён разумее, што не толькі Петрык, але і сам Толя нічога з фашыстамі не зробяць і самалёта каменьчыкам не саб'юць. Гэта могуць зрабіць толькі чырвонаармейцы, бо ў іх ёсць і шлёмы на галовах і стрэльбы ў руках. І коні ў іх ёсць добрыя. Не горшыя за Толінага каня, хоць той і з бярозавага пугаўя зроблены.

Нямала паездзіў па свеце Толя на сваім кані. Захоча пабываць ля школы, на другім канцы вёскі—і конь мігам даставіць яго туды. Захоча пакупацца ў рэчцы за сялом, сядзе вярхом на свайго каня—і сам не заўважыць, як апынецца ля рэчкі. А зусім нядаўна ён нават прымаў удзел у паходзе з сапраўднымі чырвонаармейцамі на сапраўдных канях. Толя доўгі час ехаў побач з імі на сваім кані, так што, нарэшце, камандзір не сцярпеў і пахваліў яго:

— Малайчына, кавалерыст!

Не дзіва пасля таго, што Толя любіў чырвонаармейцаў не менш як татку, мамку, брата Зміцера і сястру Любу. І дзе-б толькі ні ўбачыў ён чырвоных байцоў, як зараз-жа ляцеў туды на сваім кані. А выпадкі такія траплялся яму досыць часта, бо за кіламетраў дзесяць адсюль стаяла аж два палкі кавалерыі. Апрача таго, вёска стаяла каля скрыжавання некалькіх дарог, і тут досыць часта праязджалі не толькі коннікі, але і танкі, і гарматы. Усё гэта давала Толю пэўнае права лічыць сябе звязаным з Чырвонай арміяй. І ён гэта паказаў на справе.

Спякота. Цішыня ў вёсцы. Нават ветрык змарыўся і заціх. Пыл, узняты Толіным канём, доўга стаіць у паветры, нібы раздумваючы, ці апускацца яму на зямлю, ці не. А далёка на дарозе ўзняліся слупы пылу, нібы хмары. Толя адразу сцяміў, што калі такі пыл, то там пэўна рухаецца нешта вайсковае. А калі вайсковае, то ён павінен прыняць удзел. Толя сцебануў свайго каня і паімчаўся насустрач.

Насустрач сапраўды рухалася войска—атрад з дваццаці або болей коннікаў. Ехалі яны рыссю, і Толя на сваім бярозавым кані хутка адстаў ад іх і згубіўся ў пыле. А найбольш крыўдна было тое, што ніхто з чырвонаармейцаў не звярнуў на яго аніякае ўвагі. Нібы таго чалавека з яго канём зусім і на свеце не было. Мажліва, што заднія байцы не бачылі Толю праз пыл, але камандзір ехаў наперадзе і павінен быў бачыць. Толя-ж так глядзеў яму ў вочы і ў рот, чакаючы пахвалы, што толькі сляпы мог гэтага не заўважыць. І вось-жа ж ён не звярнуў увагі. Крыўдна, вельмі крыўдна. Каб Толя не быў-бы мужчынай і байцом, ён пэўна заплакаў-бы.

Раз'езд абмінуў вёску, спусціўся да ракі, к мосту і спыніўся. Чырвонаармейцы злезлі з коней, размясціліся на траве сярод алешніку і чагосьці чакалі. Каб Толя быў такі малы і дурны, як Петрык, ён мог-бы падумаць, што гэта яго чакаюць яны. Бо чырвонаармейцы і глядзелі ў той бок, адкуль ехаў Толя, і сустрэлі яго ветліва, калі той пад'ехаў да іх блізка:



— Здароў, чырвоны кавалерыст!

— Давай мяняцца канямі!

— Дай-жа адпачыць свайму каню!—і яшчэ ўсялякія такія словы ішлі да Толі ад байцоў.

Ад такой увагі не толькі ў шасцігадовага Толі павінна была закружыцца галава, але яна закружылася-б нават у дзесяцігадовага Мішы, які так задзірае нос перад Толем. Толя пачаў паказваць перад чырвонаармейцамі ўсё сваё майстэрства верхавой язды. Ён гнаў свайго каня на ўвесь дух і спыняў яго ў адзін міг. Ён рабіў на сваім кані такія завароты і ўправа, і ўлева, і ва ўсе бакі, што чырвонаармейцы аж са смеху клаліся ад зайздрасці. А калі Толін конь занаравіўся ды стаў на дыбкі ды пайшоў задам, то тады і сам камандзір пахваліў:

— Малайчына, джыгіт!

Што такое „джыгіт“ Толя не ведаў, але быў упэўнены, што гэта нешта добрае, бо камандзір вельмі ласкава ўсміхаўся. Ды і ўсе чырвонаармейцы цяпер былі зусім не такія, якімі ён сустрэў іх на дарозе. Здавалася, усе яны былі вельмі рады, што пабачылі Толю, што яны толькі таго і чакалі, можа нават і ехалі сюды дзеля таго, каб з ім сустрэцца.

Адзін баец падхапіў Толю разам з яго канём, пасадзіў на свайго каня і, трымаючы адной рукой хлопчыка, другой пачаў вадзіць каня. У Толі аж дух заняло ад шчасця. Ці мог ён спадзявацца, што яму калі-небудзь давядзецца ехаць на сапраўдным сядле? А сядло рыпае ды пахне так прыемна. Эх, каб убачылі цяпер яго Петрык і Міша! І бабуля, і дзед Даніла, і дзядзька Рыгор. І татка, і мамка, і брат Зміцер, і сястра Люба...

Раптам зноў закурыўся пыл на дарозе. Як птах, прыляцеў конны чырвонаармеец і пачаў нешта гаварыць камандзіру. Той закамандаваў, і ўсе чырвонаармейцы замітусіліся, як мурашкі ў устрывожаным мурашніку. А Толю сказалі:

— Бяжы, браток, дахаты, бо тут зараз будзе вайна.

— Вайна? З фашыстамі?—затоіўшы дыханне, спытаўся Толя.

— А то з кім-жа?—засмяяўся чырвонаармеец.—Вядома, з фашыстамі.

— І я таксама хачу ваяваць!

Дружным і ласкавым смехам сустрэлі байцы такую заяву, але прапановы не прынялі.

— Пачакай. Потым,—сказалі яны.—Паспееш яшчэ. А цяпер хавайся з дарогі, бо коні растопчуць.

Устрывожаны хлопчык ціха пайшоў па краю дарогі, увесь час азіраючыся назад, на сваіх прыяцеляў. А тыя раптам зніклі, нібы скрозь зямлю праваліліся. Зніклі разам з усімі сваімі конямі.

„Добра схаваліся“, з палягчэннем уздыхнуў Толя. „Цяпер фашысты не знойдуць“.

Чырвонаармейцы былі добра схаваныя. Заставаўся толькі адзін клопат—пра татку, пра мамку, пра брата Зміцера і сястру Любу. Ці міне іх фашысцкае войска? Ці будзе іх шукаць у полі, ці так пакіне? Ды і сама вёска разам з бабуляй таксама ў небяспецы. Можа, фашысты спаляць яе, а ўсіх жыхароў пазабіваюць? Нарэшце, і сам Толя таксама можа напаткаць фашыстаў. Што будзе?.. Што будзе?.. Калі іх яшчэ не так многа, то схаваныя чырвонаармейцы справяцца з імі. А калі іх будзе вялікае войска, што тады рабіць?.. Ніколі не думаў Толя, што пападзе ў такі пераплёт, трапіць у самую сярэдзіну вайны.

Зноў задыміў пыл на дарозе... Цяпер ужо Толіна сэрца моцна-моцна застукала. Гэта-ж фашысцкае войска ідзе!.. Два коннікі ляцяць наперадзе. Спыніліся, азіраюцца па баках. Якія яны хітрыя! Убраліся, нібы чырвонаармейцы.

Раптам яны ўбачылі Толю і... накіраваліся прама на яго! Толя і сам не заўважыў, як у яго вырваўся крык:

— Мама!..

І ён заплакаў на ўсё горла.

Гэта былі такія шчырыя слёзы, што нават „ворагі“ памякчэлі. Адзін з іх саскочыў з каня, падышоў да Толі і пачаў гаварыць ласкавым голасам:

— Ну, чаго ты спалохаўся, хлопчык? Хіба ніколі не бачыў чырвонаармейцаў? Ну, супакойся. Мы нічога дрэннага табе не зробім.

„Выдаюць сябе за чырвонаармейцаў“, падумаў Толя. Але ён не такі малы і не такі дурны, каб гэтаму верыць. І выгляд іх зусім не такі, як у сапраўдных чырвонаармейцаў. Тыя добрыя, вясёлыя, ласкавыя, а ў гэтых выгляд злосны. Але пакуль што яны яму нічога дрэннага не робяць. Можа, ён выкруціцца як-небудзь з іхніх лап.

— Ты не бачыў, хлопчык, тут чырвонаармейцаў?

Толя адразу сцяміў, чаго хочуць „ворагі“, і паспяшыў адказаць:

— Не!

— Яны павінны былі тут праязджаць. Ты не бачыў, у які бок яны паехалі?

— Туды,—паказаў Толя сваім канём зусім не ў той бок.

Разведчыкі пакінулі Толю і разлучыліся: адзін паскакаў назад, а другі—у той бок, куды паказаў Толя.

Радасць незвычайная ахапіла хлопчыка.

„Ашукаў фашыстаў! Ашукаў фашыстаў!“—стаў ён паўтараць сам сабе і пабег да чырвонаармейцаў, каб пахваліцца перад імі сваёй выдумкай.

Нельга сказаць, каб камандзір чырвоных быў задаволены, што падружыўся з гэтым хлапчуком. Манеўры—справа сур'ёзная, а тут прычапіўся гэткі „коннік“.

„Блытаецца паміж ног дзіцянё, перашкаджае. Яшчэ бяды можа нарабіць...“—думаў камандзір.

Але яму важна было ведаць, аб чым гаварылі разведчыкі сініх з гэтым хлапчуком. Камандзір вышаў з алешніку, пераняў Толю і зноў схаваўся з ім у кустах.

— Ну, аб чым яны пыталіся цябе?—сказаў камандзір.

— А я ашукаў фашыстаў!—весела залапатаў Толя.—Я іх ашукаў. Яны пыталіся, дзе вы, а я паказаў, што паехалі туды. Ага, я іх ашукаў!..

— А які-жа ж ты маладзец!—з захапленнем сказаў камандзір.—У такім разе сядзі ўжо тут, і будзеш разам ваяваць.

Зноў заварушыліся чырвонаармейцы, раз-

мясціліся інакш і замерлі. Толя сядзеў ля камандзіра. Побач—чырвонаармеец з ручным кулямётам.

На ўзгорку паказаўся значны атрад „ворагаў“. Чалавек дзесяць паехала ў бок, туды, куды паказаў Толя. А рэшта пачалі спускацца на мост.

Вось тут і пачалася заўзятая „вайна“. Вакол Толі затрашчалі вінтоўкі, заляскатаў кулямёт; потым пачулася грамавое „ура“, усе чырвонаармейцы пабеглі наперад...

На жаль, Толя нічога не бачыў, што дзеялася вакол яго. Ён зашыўся ў куст алешыны ды плакаў і дрыжаў там ад страху. Ледзь знайшлі яго чырвонаармейцы. А калі вынеслі на мост, то абступілі і пачалі яго хваліць не толькі чырвоныя, але і „сінія“, якія былі ўзяты ў палон праз Толікава ашуканства.

...Цяпер у Толі, замест бярозавага каня, ёсць конь жалезны, на трох колах.



# Слязінка.

*Арк. Гейне*

Не пускаюць Нату з хаты—
    Прастудзілася яна.
Надта сумна ў хаце Наце,
    А на вуліцы—вясна;

Свеціць сонца
У аконца,
    Ната стала ля акна
І заплакала, заплакала, заплакала
І слязамі ўсё закапала, закапала...

Раптам у адну слязінку
Промень сонейка папаў,
Каляроваю карцінкай
У слязінцы заіграў.

І скрозь чыстую слязінку
Глянула на двор дзяўчынка.—
Стала ўсё навокал новым,
Дзіўным, рознакаляровым—
Сінім, чырвоным,
Жоўтым, зялёным...

Ната звонка рассмяялася
І... слязінка абарвалася...



# Тоня

*Кузьма Чорны*

*Рысункі ШАХРАЯ*

*Пісьменнік Кузьма Чорны працуе над аповесцю для дзяцей. У гэтай аповесці расказваецца, як хлопчык Тоня, сірата, з беднай сялянскай сям'і пры совецкай уладзе вырас і стаў знатным чалавекам нашай вялікай радзімы. Ва ўрыўку, які мы тут друкуем, расказваецца, як Тоню цяжка жылося на хутары ў кулака.*

Хлопчык папраўляўся пасля цяжкай хваробы. Больш нішто не душыла грудзі, не стукаў боль у галаве, усё што было перад вачыма, не падала бясконца ў бездань. І такая вялікая была патрэба сказаць каму-небудзь блізкаму аб гэтай радасці! Але сказаць не было каму. І тут пачаўся дзіцячы смутак. Больш за ўсё душа ныла аб бацьку.

— Тату пахавалі?—запытала дзіця.

Ніхто не адказаў, бо ў хаце нікога не было. Дзіця паспрабавала падняць галаву. Але ледзь яно зрабіла гэта, з'ехаўшы на бок з падасланага лахмана, як боль стукнуў у вушы і дзіця асталося ляжаць на месцы. Так, у смутку, яно яшчэ ляжала нейкі час. Дні цягнуліся паволі. Зменьваліся колеры: некаторыя дні былі ясныя, некаторыя хмурныя. Часам дрэвы шумелі ад ветру, часам было ціха. Але птушыныя галасы заўсёды чутны былі за сцяной. Ішла вясна. Праз некалькі дзён хлапчук сядзеў ужо на краі печы, звесіўшы босыя ногі на хату. З ім разгаварылася гаспадыня:

— Як-жа ты завешся?

— Тоня.

— Гэта Антон, ці як?

— Антон.

— Больш у цябе нікога не было апроч таты?

— Не, яшчэ сястра.

— Дзе-ж яна?

— Яна не жыла з намі, а служыла ў людзей, у горадзе. Не ў тым, куды мы ехалі, а ў другім, у малым.

— То ты можаш цяпер да яе паехаць і жыць пры ёй.

— Як-жа я знайду, калі яе ўжо там няма.

— Чаму?

— Яна пайшла ў той самы горад, куды і мы ехалі. У тых самых людзей яна павінна была чакаць нас. Так тата казаў, калі ўміраў.

— Гэтыя людзі разам з вамі ад вайны ўцякалі?

— Уцякалі.

— То ты іх ведаеш?

— Тата іх дык ведаў, а я не.

— Сястра твая, калі так, у іх цяпер?

— У іх, мусіць.

— А як яна завецца?

— Вера завецца.

— А колькі ёй год?

— Не ведаю.

— Яна за цябе старэйшая?

— Старэйшая.

Больш ужо не было чаго пытаць.

Стаяў цёплы дзень. Снег сінеў і ападаў пад мокрым ветрам. Паўз дарогу чарнелася ўжо голая зямля. Лес пры хутары шумеў веццем і трашчаў голлем. Неба над ім было чыстае, як у сапраўды веснавы дзень. Хлапчук па паўдні пачаў збіраць усе свае лахманы, але ўсяго не знайшоў. Ён запытаў у гаспадыні. Яна адчыніла дзверы ў кухенныя сенцы і ткнула туды пальцам. Хлапчук



панакручваў на ногі ўсе, якія меў, анучы і абуў лапці. У сенцах ён убачыў свае лахманы пад самым парогам. Аб іх ужо, напэўна і ногі ад снегу абціралі. Згробшы ў рукі сваю гэтую адзежу, ён падаўся назад у кухню. Пералазячы цераз парог, ён траха не паваліўся: ад свежага паветра, пасля доўгага ляжання ў душнай кухні, у яго стала цёмна ў вачах. Хлапчук паўсцягваў на сябе ўсё, што асталося ад бацькі: вялікую салдацкую шапку, світку, полы якой зусім закрылі лапці. Пасля ён яшчэ падперазаўся кавалкам вяроўкі. Паспрабаваў ісці—цяжка.

Гаспадыня ўвесь час моўчкі глядзела на яго. Як толькі ён паспрабаваў ісці, яна ўзнепакоілася. Яна падумала: а што, калі ён хлусіў, што не ведае, дзе яго сястра ці хто іншы? Тады яшчэ могуць дамагацца, каб забраць каня. І хоць ніхто ім каня не аддасць, няхай яны ў гэтым будуць пэўны, але ідзе вясна, сам пастушок з рук уцячэ!

— Куды ты?—запытала яна хлапчука.

Хіба гэтае дзіця ведала, куды яно выбіраецца?! Яго цягнула кудысьці адгэтуль. Імкненні яго былі хоць не выразныя, але цвёрдыя: кудысьці ў шырокі свет шукаць некага і нечага.

—Я і сам не ведаю—куды,—адказаў хлапчук.

„Малое, а ўжо хітруе“,—падумала гаспадыня.—„Можа хто ціхом падгаварыў?“

— Ты хіба думаеш ад нас пайсці? (Хлапчук маўчаў).—Пачакай, распраніся. Я табе лепшую адзежу дам. Твая світка па зямлі валочыцца.

Хлапчук паслухмяна прыпёрся да лавы. Гаспадыня ў момант прынесла з гары кароткі кажушок і шапку. Кажушок быў траха што без воўны, вышмарганы і здубянелы, але перавага яго ў параўнанні з світкай была тая, што ён не валачыўся па зямлі. Шапка з труса таксама была лепшая і не налазіла на вочы. Хлапчук пераапрануўся і адразу пасмялеў.

І хацеў на дварэ пабыць. Вельмі-ж птушкі спяваюць.

Голас яго задрыжэў, сціснулася ў грудзях. Ён гатоў быў заплакаць, каб ён мог з кім тут гаварыць так, як калісьці гаварыў з бацькам!

— Ідзі пагуляй сабе, але не баўся, бо трэба палуднаваць.

„А можа і сапраўды льга будзе гаварыць так, як калісьці з бацькам?“

І ён вышаў з хаты. Узрушала яго ўсё: і звон вадзяных кропель ля студні, і шум блізкага голасу, і чорная зямля з-пад мокрага снегу. Пахнуў вецер лесам і полем і такая неабдымная была шырыня свету!

Дзіця паволі пайшло. Яно мінула двор, загарадзі, сцены. Вузкая дарога, ледзь выезджаная, была перад ім. Яна ўваходзіла ў лес. Гэта была тая самая дарога і той лес, адкуль ён ехаў на хутар у той жудасны ясны і марозны дзень. Дарога часам ішла пад цёмным скляпеннем яловых лап. З-пад снегу тырчэлі каляіністыя гузы і на іх сухія рэшткі леташняй травы.

У гэтай адзіноце страшна было дзіцяці, але разам з тым было і такое супярэчлівае пачуццё: тут як-бы далей ад чагосьці страшнага, што льга было-б назваць няласкай да яго жыцця сярод людзей і ўсіх з'яваў свету. У гэты момант дзіця ўжо выразна адчула і розумам і сэрцам, што яно тут чужое і дарэмна тут старацца гаварыць з „імі“ так, як (нядаўна-ж яшчэ гэта было!) гаварылася з бацькам, усёроўна, як назначана было нейкім законам, каб хутарскі хлопец—гаспадар трапляўся гэтаму дзіцяці на яго дарозе. Якраз і цяпер ён, трымаючы на плячы дубальтоўку, вышаў з самай гушчыні лесу. Лясная вялікая птушка, забітая, была прывязана да яго падпяразкі на кажуху.

Дзіця стаяла на дарозе. Выбвіствваючы дзве аднастайныя ноты, малады паляўнічы ад нечаканасці спыніўся:

— Ты? Што ты тут робіш?

— Я так сабе.

— Ну як, ужо не хворы?

Дзіця засаромелася і спусціла вочы на снег. Паляўнічы падышоў і паляпаў малога па плячы.

— Бачыш, якую я птушку ўпаляваў?

Малы дакрануўся да птушкі рукой.

— Шыя ў белыя крапінкі. Якая гэта птушка?

— Хадзем дадому,—адказаў паляўнічы.

„А можа людзі будуць ласкавыя са мною?“—прасілася перад усім светам дзіцячая душа.

Яны пайшлі вельмі павольна. Відаць, хутарскі паляўнічы быў у гэтыя хвіліны ў добрым гуморы. Ён усё паджартоўваў з малога, даючы яму пстрычкі ў шапку. Малы адчуваў поўную сваю залежнасць ад гэтага чалавека і стараўся ўсміхацца, гледзячы гаспадару ў твар і адчуваючы боль ад пстрычак. Так жыццё вучыла яго фальшывай усмешцы, праціўнай пачуццю, якое вымагала не ўсмешкі, а сціснутых кулакоў.

— Але-ж і пылу ў тваім кажушку!

Фальшывае пачуццё расло ў дзіцяці. Яно адчула сябе як-бы вінаватым нават і за гэты пыл у чужым кажушку. Яны ўвайходзілі ўжо ў браму.

— Ну, як табе гэты кажушок?—спаткала іх на дварэ гаспадыня.—Повелік ён на цябе. Гэта кажушок нябожчыка дзядзькі. Дзядзька тады яшчэ быў малады, калі шыў яго. Вельмі-ж аўчыны былі добрыя. Дзядзька і сам быў такі справядлівы і любіў такіх малых, як ты. Няхай затое гэты кажушок будзе табе, сіраце.

Так гаворачы, яна падвяла малога да пуні.

— Тут ляжыць леташняя салома... Бачыш сёння, як цёпла на дварэ. Вясна блізка. Ты не змёрз у лесе? Ты мне паможаш гэтую салому выкінуць на сярэдзіну, а пасля пойдзем палуднаваць. Я табе буду падаваць, а ты аднось.

Хлапчук пачаў адносіць салому. Праз дзве хвіліны пот выступіў у яго на ілбе. Яшчэ праз дзве хвіліны дзіця закашлялася.

Чорны пыл з леташняй саломы падняўся, як хмара.

— Адпачні крыху,—сказала жанчына.— Гэта не дзіва, што пыл. Адпачні... Ну, цяпер давай яшчэ возьмем. Бяры граблі і адпіхай, так лягчэй будзе.

Праз хвілін пяць у дзіцяці ўжо амярцвелі рукі, яно аблівалася потам. Здаецца, лепш было тады, калі на кухеннай печы кашмар душыў яго хворыя грудзі.

— Годзе,—сказала жанчына.—Цяпер у смак палуднаваць будзеш.

Хлапчук прыпёрся плячыма да сцяны і ў хату пайшоў пазней за гаспадыню. Ён чакаў, пакуль паяснее ўваччу і пакіне спіраць грудзі. Галава яго кішэла ад молі: моль была ў шапцы і цяпер адагрэлася на галаве. Пасля палудню, як нядаўны хворы, ён з гадзіну ляжаў на лаве, а пасля зноў пайшоў у работу. Да вечара ён яшчэ паспеў перанасіць з-пад паветкі калы туды, дзе меліся ставіць плот.

Ён так чакаў ночы! З самага вечара ён лёг на сваё старое месца на печы і спаў аж да самай раніцы. Сон даў яму сіл, каб зранку зноў пачаць цягаць старую салому.

Так і пайшло дзень за днём. Гаспадыня часта казала яму:

— Налажвайся да работы. Прывыкай. Пасля—як знойдзеш, і падзякуеш людзям, што навучылі. На кепства цябе ніхто не навучае. Няўмекам на свеце не пражывеш.

Няўмекам ці ўмекам, але што жыць на свеце цяжка, гэтае дзіця ведала лепш ужо за самага спрактыкаванага старога.





*М. Лермонтов*

# ТРИ ПАЛЬМЫ

*(Восточное сказание)*

В песчаных степях аравийской земли
Три гордые пальмы высоко росли.
Родник между ними из почвы бесплодной,
Журча, пробивался волною холодной,
Хранимый, под сенью зеленых листов,
От знойных лучей и летучих песков.

И многие годы неслышно прошли;
Но странник усталый из чуждой земли
Пылающей грудью во влаге студеной
Еще не склонялся под кущей зеленой,
И стали уж сохнуть от знойных лучей
Роскошные листья и звучный ручей.

И стали три пальмы на бога роптать:
„На то ль мы родились, чтоб здесь увядать?
Без пользы в пустыне росли и цвели мы,
Колеблемы вихрем и зноем палимы,
Ничей благосклонный не радуя взор?
Не прав твой, о небо, святой приговор!"

И только замолкли—в дали голубой
Столбом уж крутился песок золотой,
Звонков раздавались нестройные звуки,
Пестрели коврами покрытые вьюки,
И шел, колыхаясь, как в море челнок,
Верблюд за верблюдом, взрывая песок.

Мотаясь, висели меж твердых горбов
Узорные полы походных шатров;
Их смуглые ручки порой подымали,
И черные очи оттуда сверкали...
И, стан худощавый к луке наклоня,
Араб горячил вороного коня.



И конь на дыбы подымался порой,
И прыгал, как барс, пораженный стрелой;
И белой одежды красивые складки
По плечам фариса вились в беспорядке;
И, с криком и свистом несясь по песку,
Бросал и ловил он копье на-скаку.

Вот к пальмам подходит, шумя, караван;
В тени их веселый раскинулся стан.
Кувшины звуча налилися водою,
И, гордо кивая махровой главою,
Приветствуют пальмы нежданных гостей,
И щедро поит их студеный ручей.

Но только что сумрак на землю упал,
По корням упругим топор застучал,
И пали без жизни питомцы столетий!
Одежду их сорвали малые дети,
Изрублены были тела их потом,
И медленно жгли их до утра огнем.

Когда же на запад умчался туман,
Урочный свой путь совершал караван;
И следом печальным на почве бесплодной
Виднелся лишь пепел седой и холодный;
И солнце остатки сухие дожгло,
А ветром их в степи потом разнесло.

И ныне все дико и пусто кругом—
Не шепчутся листья с гремучим ключом;
Напрасно пророка о тени он просит—
Его лишь песок раскаленный заносит,
Да коршун хохлатый, степной нелюдим,
Добычу терзает и щиплет над ним.

*Рысунак ДАВІДОВІЧА*





# Спартак

*Апавяданне В. ГОЛЬДЭНБЕРГА* *Рысункі М. КАРПЕНКА*

Было гэта надта даўно, дзве тысячы год таму назад, у магутнай Рымскай дзяржаве.

Шмат розных зямель заваявалі рымляне, а ўсіх палонных, захопленых на вайне, яны рабілі рабамі. Рабоў у Рымскай дзяржаве было дужа многа. Рабы працавалі на палях пад кнутамі бязжаласных назіральнікаў; рабы працавалі ў розных майстэрнях; рабы надрываліся на горнапрамысловых работах; рабы прыслугоўвалі ў багатых дамах. Усё выконвалі рабы.

Цяжкім было жыццё рабоў. Іх прымушалі надта многа працаваць і надта дрэнна кармілі. Над імі здзекваліся як хацелі, іх не лічылі за людзей.

Маладых і самых здаровых рабоў аддавалі ў школы гладзіятараў. Там іх вучылі біцца мечамі, трызубцамі і рознымі спосабамі змагацца. Потым іх выводзілі на арэны цыркаў, каб там, на пацеху жорсткаму натоўпу, яны паказвалі вайну, забіваючы адзін аднаго.

Адным з такіх гладзіятараў і быў Спартак—храбры, разумны і благародны чалавек.

* * *

Стаяў ясны сонечны дзень. Аграмадны цырк быў перапоўнены. Усе гледачы напружана сачылі за тым, што адбывалася на арэне.

А там быў сапраўдны бой.

Трыццаць гладзіятараў, апранутых у блакітныя тунікі і ўзброеных кароткімі прамымі мечамі, люта нападалі на столькіх-жа сваіх таварышоў, апранутых у яркачырвоныя тунікі і ўзброеных крывымі мечамі.

Звінела зброя, чуліся крыкі і стогны смяртэльна параненых байцоў. Кроў залівала пясок арэны.

Перамагалі блакітныя. Ужо толькі тры гладзіятары ў чырвоным засталіся жывымі. Яны адчайна адбіваліся ад наступаючых у блакітным. Але сілы былі няроўныя.

Вось адзін з іх упаў з раскроеным чэрапам. Другі быў паранены ўжо і ледзьве абараняўся. Толькі трэці, цяжка дыхаючы, з вялікімі кроплямі поту на ілбе, бліскуча адбіваў удары блакітных. Але хутка ён застаўся адзін, а блакітных было чацвёра. Адзін су-

проць чатырох,—здавалася, смерць немінуча. Але храбры Спартак,—а гэта быў ён,—знайшоў паратунак.

Спартак кінуўся ўцякаць, блакітныя пагналіся за ім. Раптам ён спыніўся, і, абярнуўшыся, пракалоў мечам найбліжэйшага, потым кінуўся на другога, затым шчытом прыглушыў трэцяга. Хутка і астатні гладзіятар у блакітным ляжаў на пяску арэны.

А Спартак, не жадаючы смерці свайго няшчаснага таварыша, выбіў у яго з рук меч і, стаўшы нагою яму на грудзі, чакаў ад гледачоў прыгавору.

А звар'яцелыя гледачы, здзіўленыя сілай і адважнасцю Спартака, равелі ад захаплення.

— Волю храбраму Спартаку!—крычалі сотні галасоў.

Амаль усе гледачы паднялі ўгару ўказальны і сярэдні пальцы, паказваючы тым, што пераможаным даруецца жыццё.

Бедны Спартак прыклаў руку да сэрца і, нерухомы, нібы статуя, чакаў вырашэння свайго лёсу.

— Волю Спартаку!—крычалі ўжо тысячы галасоў.

І рымскі правіцель, бязлітасны Сулла якога ўсе баяліся і ненавідзелі, кіўнуў галавою, даючы сваю згоду на асвабаджэнне храбрага гладзіятара.



Спартак стаў вольным. Ён усхамянуўся, абвёў затуманенымі вачыма цырк і рушыў да выхаду. Ён быў шчаслівы, ён здабыў волю, пра якую нават і марыць не адважваўся. Але раптам ён успомніў пра сваіх таварышоў, што таміліся ў цесных і брудных цямніцах, чакаючы, пакуль іх выведуць на арэну. Яны таксама будуць забіваць адзін аднаго на пацеху грубаму натоўпу. Яны таксама дарэмна праліваць будуць кроў. І Спартак задумаўся. Дакуль-жа цярпець, дакуль пакарацца, каб над імі здзекаваліся, каб іх, як жывёлу, гналі на смерць? Не, толькі паўстаўшы супроць рабаўласнікаў, рабы са зброяй у руках здабудуць сабе волю.

І вось неўзабаве разам з 78 гладзіятарамі з школы ў Капуі Спартак уцёк на гару Везувій. Да яго пачалі далучацца рабы, гладзіятары, беднякі.

Хутка пад камандаю Спартака сабралася грамадная армія. Каля двух год прасоўваўся ён з сваімі атрадамі па ўсёй краіне, наводзячы жах на рабаўласнікаў і ніколі не крыўдзячы сялян.

Ніводзін рымскі палкаводзец не мог яго перамагчы. Рымскія салдаты не хацелі ваяваць супроць Спартака.

І ўсё-ж Спартак пацярпеў паражэнне. Нехта з яго войска быў падкуплены рымскімі рабаўласнікамі і здрадзіў яму. Частка атрадаў адкалолася ад яго і была знішчана рымлянамі.

Са зменшанымі сіламі Спартак сустрэўся з рымскім войскам, якое абкружыла яго з трох бакоў. Пачаўся гарачы бой. Гладзіятары біліся, як ільвы, яны ведалі, што літасці ад жорсткіх рабаўласнікаў ім не будзе. Уперадзе найлепшага атрада біўся Спартак.

Але радзелі рады паўстаўшых. Усё шчыльней сціскалі іх рымляне. Спартака абкружылі сотні ворагаў. Паранены ў нагу, ён стаў на адно калена і, прыкрываючыся шчытом, наносіў смяртэльныя ўдары. Але сілы былі няроўны. Азвярэлыя рымляне накінуліся на адважнага змагара і парубілі на кускі, так што і трупа яго не знайшлі.

Так гераічна загінуў Спартак, які хацеў вызваліць з няволі сотні тысяч няшчасных замучаных рабоў.



# Парады рыбака

Расказ І. ЕФІМАВА

Рысункі М. СВЯЦКАГА

Добрыя, слаўныя ў нас суседзі, а ўсё-ж больш за ўсіх мы любім Паўла Іванавіча, або, як яго завуць дзеці, „дзядзьку Пашу“. Павел Іванавіч любіць прыроду. Яго апавяданні пра лясы, рэкі і азёры не раз хвалявалі нас у даўгія зімовыя вечары. Але асабліва падабаліся нам апавяданні дзядзькі Пашы аб рыбнай лоўлі. Улетку па выхадных днях накіроўваецца ён з вудамі, падсачкам і кошыкам з прадуктамі на рыбалку. А ўвечары мы, рэбята, ведаючы прыблізна, калі вернецца Павел Іванавіч, чакаем-недачакаемся яго звароту. А вось і ён! У момант кошык з рыбай ужо ў нашых руках. Аго-о, як многа рыбы! А дзядзька Паша расказвае аб асобных буйных экземплярах, як ён іх перахітрыў, як асцярожна выцягваў на бераг, падхапіўшы падсачкам.

Надышла ранняя вясна. Аднойчы ўвечары мы прасілі дзядзьку Пашу навучыць і нас вудзіць рыбу і ўзяць нас з сабой на рыбалку. Павел Іванавіч, падумаўшы, пачаў расказваць:

— Я прызнаю толькі лоўлю вудамі. Ніякіх шнуроў, рагулек і падпускоў не люблю і на іх не лаўлю. Ды і вам раю лавіць рыбу вудамі. Пры лоўлі рыбы вудамі неабходна рыбалову-вудзільшчыку развіць у сабе назіральнасць. Вельмі добра, калі вы па кнігах пазнаёміцеся з жыццём і бытам асобных парод рыб, асабліва тых, якіх збіраецеся лавіць вудамі. Неабходна ведаць, у якім месцы, якая парода рыбы водзіцца, якія пароды рыбы насяляюць даны вадаём, чым яны жывяцца.

Здольнасць назіраць і прымячаць павадкі або норавы асобных парод рыб і ўмела гэтым карыстацца дае рыбалову-спартсмену велізарныя перавагі. Увесну рыбы ў пошуках пажывы бродзяць усюды. Тлумачыцца гэта тым, што зелені ў вадзе яшчэ няма. У гэтую пару года рыба галодная, і калі рыбалоў папаў на яе, то можна налавіць многа.

Трэба выбіраць на рацэ месцы, дзе вада менш мутная: у залівах, затоках, там, дзе ўпадае ў рэчку невялікі ручаёк. Ранняй вясной рыба бярэцца лепш днём, каля поўдня. Лавіць трэба са дна і выбіраць месцы з пясчаным дном. Добра клюе плотка, вокунь, галавень, ялец. Летам рыба разборлівая: яна мае спажывы ўдастатку. Улетку рыба трымаецца галоўным чынам каля берагоў, пад растучымі кустамі і дрэвамі. На рассвеце, ледзь займецца золак, рыба ідзе на здабычу. Большаю часткай рыба ходзіць стайкамі. Калі сонца моцна пачне прыграваць ваду, рыба ідзе ў больш глыбокія месцы. У гэты час рыба бярэцца слаба. Пад вечар яна зноў выходзіць на здабычу.

Цяпер я раскажу вам каротка аб асобных пародах рыб, якія часцей за ўсё трапляюцца на вуду ў нашых рэках і азёрах

Пачнем з вокуня. Вокунь у нашых рэках рэдка дасягае вагі ў тры кілаграмы, але ў азёрах Сібіры ён бывае да 5 кілаграмаў. Летам малыя і сярэднія вокуні заходзяць у завадзі на больш мелкія месцы, парослыя чаротам, лапухамі і трасніком. Буйныя вокуні пастаянна жывуць на глыбіні, у вірах, ямах, пад сваямі ля плацін, пад карчамі, дзе яны чакаюць сваю здабычу, і выходзяць на мелкія месцы толькі раніцой і пад вечар. Ходзяць вокуні невялікімі стайкамі. Вокунь прагна бярэ на вуду амаль круглы год. Лоўля вокуней вельмі прывабная і лёгкая. Вокуні, асабліва буйныя, вельмі сільныя і спрытныя, драпежныя і пражорлівыя. Галоўнай стравай іх з'яўляюцца земляныя і навозныя чэрві і дробная рыбка: пяшкуры, яльчыкі, верхаводкі. Лавіць трэба са дна з грузам. Вокунь захватвае прагна і глыбока праглынае насадку, і таму вынімаць кручок рукамі цяжка. Каб зручней было даставаць кручок, робяць з тоўстага дроту асобы прыбор, расшчэплены на канцы ў выглядзе двух зубцоў.



Таксама прывабна і цікава лоўля плоткі. Плотка дасягае вагі больш $1^1/_4$ кілаграма; на вуду часцей за ўсё пападаюцца вагой 500—600 грамаў. Буйная плотка трымаецца ў глыбокіх месцах, дробная—каля берагоў, парослых трасніком і лапухамі, на ціхім цячэнні. Нерастуе ў пачатку або сярэдзіне мая. Ходзіць стайкамі. Страву плотка ўсасвае. Насадка: чэрві чырвоныя і земляныя, хлеб, змешаны з варанай бульбай, мухі, гарох, лічынкі насякомых.



Пяшкур часцей за ўсё пападаецца на вуду на мелкіх пясчаных месцах, на перакатах з быстрым цячэннем. Пяшкур трымаецца на самым дне і на паверхню вады паднімаецца вельмі рэдка. Улетку і ўвосень пяшкуры трымаюцца і на глыбокіх месцах, таксама з пясчаным або ілавата-пясчаным дном. Пяшкур рэдка дасягае велічыні 12—15 сантыметраў. Нерастуе ў канцы чэрвеня або ліпеня. Любімая страва пяшкура—чэрві, лічынкі. Жывуць стайкамі; клююць добра. Пяшкур з'яўляецца добрай насадкай на шчупакоў, вокуней, галаўнёў.

Верхаводка, або ўклейка, у даўжыню рэдка дасягае 18—20 сантыметраў. Трымаецца яна на самай паверхні вады, і толькі ранняй вясной і позняй восенню сустракаецца на глыбіні. Лавіць верхаводак лепш за ўсё на мух, апарышаў, маленькія шарыкі хлеба—па верху, без грузіла.

Галавень унікае вялікіх, з павольным цячэннем рэк. Любімым яго месцазнаходжаннем з'яўляюцца невялікія быстрыя рэчкі з халоднай вадой. Ён любіць пясчанае, камяністае дно, трымаецца на быстраку каля свай, вялікіх каменяў, каля карчоў. Нерастуе ў канцы красавіка або пачатку мая. Дасягае ён буйнай велічыні і вагой бывае да 5—8 кілаграмаў. Ловіцца галавень на майскіх і дробных жучкоў, конікаў, стракоз па верху вады, а на гарох, бульбу, пяшкура, лінючага рака—са дна. Для занады галаўня ўжываецца—вараная бульба, гарох, параныя зёрны ячменю, пшаніцы, грэцкай крупы. Галавень вельмі сільная рыба, і таму лавіць яго трэба на надзейную моцную, але ў той-жа час тонкую лёску, таму што галавень—рыба вельмі асцярожная.

Адной з самых распаўсюджаных у нас рыб з'яўляецца ялец. Вага яго дасягае да 150 грамаў. Гэта невялікая рыбка падобна на маладога галаўня, але яна больш серабрыстая за галаўня, з больш вузкаю галавою, сціснутым целам, выдаючымся носам і невялікім ротам. Яльцы сустракаюцца часцей за ўсё ў невялікіх рэчках. Яны любяць быстрае цячэнне і чыстую ваду. Трымаюцца блізка паверхні вады і на мелкіх месцах; часцей за ўсё іх можна сустрэць там, дзе водзяцца пяшкуры. Лавіць можна са дна на чарвей, на паверхні вады—на мушку, маленькіх жучкоў, конікаў. Бярэцца ялец добра.

Важную ролю пры лоўлі рыбы адыгрывае снасць. Вудзільна павінна быць прамое, даўгое, у меру гнуткае, моцнае, з бамбука або арэшніка, маладой бярозкі або рабіны. Лёска—лепш валасяная, у 3—6 валос, гледзячы па таму, якую рыбу вы збіраецеся лавіць. Паплавок—з гусінага пяра, невялікай пробкі або сасновай кары. На невялікую рыбу біруць і танчэйшую лёску, і меншы паплавок і кручок невялікі (№ 12—14). Калі ловяць са дна—патрэбны груз або грузіла, для чаго біруць 1—2 шрацінкі рознай велічыні, гледзячы па таму, дзе вы ловіце: на быстрай вадзе—большы груз, на ціхай—меншы. Пры лоўлі па верху—бярэцца невялікі груз.



Вялікае значэнне для паспяховага ўлову мае выбар месца для лоўлі. Таму, прыязджаючы ў незнаёмае месца, даведваюся ў мясцовых жыхароў, дзе водзіцца тая або іншая парода рыб, у які час дня лепш бярэцца, на якія насадкі. Рыбу перад лоўляй неабходна занадзіць, гэта значыць прыкармліваць. Для гэтага ў большасці выпадкаў ужываюць чарвей, вараную бульбу, хлеб, параныя зёрны, гарох.

Рыба—пужлівая, і таму трэба, каб яна рыбака не заўважыла. Да вады блізка падыходзіць не трэба, таксама не трэба рабіць рэзкіх рухаў, стукаць, не шлёпаць канцом вудзільна па вадзе, закідваючы вуду, сядзець на беразе на 1 $^1/_2$—2 метры ад вады. Якой-бы вы не карысталіся насадкай, кручок неабходна поўнасцю закрываць, каб яго не было зусім відаць. Трэба таксама сачыць за тым, каб канец кручка не высоўваўся, інакш рыба пры першым датыкненні ўцячэ. Пасля таго як рыба пачне кляваць, трэба яе падсякаць, але не вельмі моцна, каб не парваць губы, а затым выцягваць на бераг, аднак не выкідваючы рыбы далёка за сябе. Час ад часу трэба падкідаць у ваду крыху падкормкі. Калі ўзялася вялікая рыба, трэба яе паводзіць у вадзе, каб яна змарылася, а потым, падвёўшы да берага, або хуткім рухам выкінуць яе на бераг, або ўзяць падсачкам (невялікая сетка, надзетая на абруч з палкай 1—1½ метры даўжынёй).

Вялікае значэнне для лоўлі рыбы маюць поры года і надвор'е. Самыя спрыяючыя для лоўлі дні—гэта цёплыя, шэрыя, з невялікімі дажджамі і, асабліва, ціхія. Выключэнне прадстаўляе лоўля плоткі і вокуня, таму што гэтыя рыбы любяць ветранае надвор'е. Лавіць трэба з падветранага боку. У гарачыя і бязвоблачныя дні рыбу лавіць трэба толькі раніцай і ўвечары; у шэрыя-ж дні з невялікімі дажджамі можна лавіць цэлы дзень. Перад навальніцай рыба клюе неахвотна; пасля навальніцы, калі наступіць цёплае надвор'е, рыба клюе вельмі добра.

На гэтым, рэбята, давайце скончым нашу першую гутарку,—сказаў Павел Іванавіч.—У наступны раз я вас навучу, як рабіць прылады для лоўлі рыбы, а там як-небудзь і рыбачыць пойдзем.






# Хвасты.

*В. Біанкі*

Прыляцела муха да чалавека і кажа:

— Ты гаспадар над усімі звярамі, ты ўсё можаш зрабіць. Зрабі мне хвост.

Чалавек кажа:

— Я хвастоў не раблю. Ды і для чаго табе хвост?

— Для таго, для чаго і ва ўсіх звяроў,— для красы.

— Я такіх звяроў не ведаю,—адказвае чалавек,—у якіх хвост для красы. Калі знойдзеш такога звера, можаш забраць сабе яго хвост. Я дазваляю.

Абрадавалася муха і паляцела.



Прыляцела на раку, а ў рэчцы рыба і рак—абое з хвастамі. Муха да рыбы:

— Аддай мне твой хвост! Ён у цябе для красы.

— Зусім не для красы,—адказвае рыба.— Хвост у мяне—руль. Бачыш: трэба мне ўправа павярнуць—я ўправа хвост кладу, трэба ўлева—я ўлева хвост. Не магу табе свой хвост аддаць.

Муха падляцела да рака.

— Аддай мне твой хвост, рак!

— Не магу аддаць,—адказвае рак.—Ножкі ў мяне слабыя, тонкія,—я імі грабці не магу. А хвост—шырокі і дужы. Я калі шлёпну хвастом па вадзе,—так мяне і падкіне. Шлёп, шлёп,—і плыву, куды мне трэба. Хвост у мяне—вясло.

Паляцела муха ў лес. Бачыць—на суку сядзіць дзяцел.

— Аддай мне твой хвост, дзяцел!

— Вось дзівачка,—кажа дзяцел.—А як-жа я дрэвы дзяўбці буду, яду сабе шукаць, гняздо для дзяцей будаваць? Вось глядзі, як мне хвост дапамагае!

Дзяцел упёрся сваім моцным, цвёрдым хвастом у кару, размахнуўся ўсім целам, ды як дасць носам па суку—толькі шчэпкі паляцелі!

Муха бачыць: праўда, на хвост дзяцел садзіцца, калі дзяўбе,—нельга яму без хваста.

Паляцела муха далей і ўбачыла лісіцу.

— Аддай, лісіца, мне твой хвост!

— Што ты, муха!—адказала лісіца.—Я-ж без хваста прападу. Пагоняцца за мною сабакі,—жыва мяне бясхвостую зловяць. А хвастом я іх падману: матну хвост управа, а сама ўлева. Сабакі ўбачаць, што хвост управа мільгануў, і кінуцца ўправа. А пакуль разбяруцца, што памыліліся—я ўжо далёка.

Бачыць муха—усім звярам патрэбны хвасты. Няма чаго рабіць—паляцела дамоў злосная. Прылятае на двор, бачыць—карова стаіць.

— Ну, добра,—кажа муха.—Спытаюся яшчэ ў каровы. А калі і карова не аддасць мне хваста,—мала не будзе тады ад мяне чалавеку.

Села муха карове на спіну і давай бубніць:

— Карова, карова, нашто табе хвост?

А карова як шлёпне сябе хвастом па спіне—і забіла муху.

---

# ЛАСТАЎКІ

*Верш Я. ЖУРБЫ*

У пуні калгаснай,
Дзе сена складалі,
Дзве ластаўкі месца
Сабе выбіралі.

А выбраўшы месца,
Гняздзечка ляпілі,
У дзюбачках гліну,
Саломку насілі.

Іх шчырай работай
Дзівіліся людзі:
„Утульная хатка
Тут ластаўкам будзе!“

Пушочак апошні
Ў гняздзечку паслалі,
На яблыні гучна
Яны заспявалі.

У цёплым гняздзечку
Заціўкалі дзеткі,
І мушак прасілі
Сабе малалеткі.

І ластаўкі часта
Ім ежу насілі
І свежай вадою
Старанна паілі.

Вось выраслі дзеткі,
Малыя ўзмацнелі;
У вырай з старымі
Яны паляцелі.





# ЗДАРЭННЕ ЎЛЕТКУ

*Анат. Фінкевіч*

У нашым калгасе ёсць купальня, нешта накшталт гарадскога пляжа. Кожны дзень тут купаюцца дзеці. Але я сюды зроду не хадзіў, а купаўся на „бобравай яме“ каля вываратня—алешыны. І вось здарылася аднаго разу там прыгода са мною.

Ужо хвілін пяць плаваў я па яме і ніяк не хацелася вылазіць. Вада цёплая, проста на сэрцы неяк радасна, лёгка, так, здаецца, і не вылазіў-бы адсюль...

Азірнуўся я чагосьці назад... і ледзь не самлеў: метраў за два ад мяне, выгінаючыся, высока над вадой трымаючы галаву, плыла вялікая змяя. З перапалоху мае рукі і ногі проста адзервянелі, трымцець пачалі. Хачу хутчэй плысці, уцякаць, ды рукі не грабуць. А змяя ўжо зусім блізка. Вось яна зараз пакажа свой востры, як шыла, язычок і смертаносным жалам кальне мяне ў спіну, і тады забудзь, хлопча, на свет, на сяброў, на трусікі беленькія, палахлівыя, якіх я ўжо многа развёў, забудзь на школу,—на ўсё!

Мароз прабег па майму целу. Колькі было сілы, я гроб рукамі ваду, але змяя не адставала. Я пачаў крычаць—прасіць дапамогі, але ніхто не адклікаўся. Я стаміўся, некалькі разоў захапіў вады ў рот, захлынаўся, але плыў, плыў... Раптам у мяне мільганула мысль даць нырца, пад ваду. Змяя баіцца на дно ісці.

Удыхнуўшы поўныя лёгкія паветра, з расплюшчанымі вачыма, я даў нырца. Вада кругом была рыжая, каламутная, жвава плавалі маленькія рыбкі і, раптам, бачу, плыве змяя за мною. Плыве так паважна, разглядае, дзе гэта я—афяра яе. Ну, думаю, не бачыць мне больш сонца і зямлі... І так горка, балюча зрабілася на сэрцы! Хочацца дыхнуць, ды ведаю, што не можна. Цярплю.

А змяі да мяне толькі поўметра засталося. Яшчэ момант і...

Раптам нешта цёмнае, доўгае, нібы шчука, мільганула нада мною, а праз секунду не было ўжо ні змяі, ні цёмнага, доўгага.

Я адштурхнуўся нагамі ад дна і вынырнуў наверх. Многа сіл каштавала, пакуль дабраўся я да берага і ўпаў на мокры пясок. Трымцелі рукі, стукалі зубы. Увесь я дрыжэў.

Толькі праз некалькі хвілін, апрытомнеўшы, я здагадаўся, што гэта шчука схапіла змяю і выратавала мяне.

# НЕ ХАЧУ, НЕ ЖАДАЮ.

Апавяданне І. КІПНІСА



Маленькі Вова стаў такі, такі непаслухмяны. Што яму не скажаш, у яго на ўсё адзін адказ: Не хачу! Не жадаю!

Маці кажа:

— Вова, умывацца!



— Не хачу!

— Вова, ідзі кашу есці!

— Не жадаю!

— Вова, апранацца! У садок пара!

— Не хачу!

— Вова, спаць!

— Не жадаю!

І заўсёды яго трэба ўпрашваць цэлую гадзіну. А то і дзве.

Вось аднаго разу прыехаў аўтамабіль. Шофер быў надта добры і ўзяў рэбят пакатацца. Усе рэбяты селі ў машыну. Тут якраз вышаў Вова. Рэбяты з машыны закрычалі:

— Воўка, хутчэй! Воўка, жвавей! А то заедзем!

Воўка надзьмуў губы і адказаў, як прывык:

— Не хачу! Не жадаю!

Шоферу гэта не спадабалася. Ён захлопнуў дзверцы, загудзеў:—ту-ту-ту—і машына пакаціла па вуліцы. Рэбяты смяюцца, рэбятам весела, яны катаюцца, а Вова застаўся адзін каля варот. Сумна яму аднаму. Ён трэ кулачком вочы. Здаецца, зараз ён заплача:

— Не хачу! Не хачу-у! Не жада-а-а-аю!



Рэдактар І. Масарскі. Адрас рэдакцыі: Менск, Дом Друку.
Друкарня імя Сталіна. 20000 экз. Зак. 807. Уп. Галоўліта БССР № 470.